# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 34 (569) Нядзеля 20-га жнівеня 1961 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# Разьвіцьцё падзеяў у савецкай зоне Нямеччыны

Уначы з 12 на 13 жнівеня ўлады савецкай зоны Нямеччыны выдалі пастанову, згодна зь якой для насельніцтва савецкай зоны Нямеччыны граніцы паміж Усходнім і Заходнім Бэрлінам сталіся фактычна зачыненымі.

Згодна з пастановай, дзеля пераходу жыхароў Усходняга Бэрліну ў Заходні цяпер патрэбны адмысловы дазвол. 52 тысячы жыхароў Усходняга Бэрліну, якія да гэтага часу працавалі ў заходняй частцы гораду мусяць адмовіцца ад гэтай працы. Улады савецкай зоны Нямеччыны запрапанавалі сваім жыхаром наагул адмовіцца ад выезду ўва Ўсходні Бэрлін. Чыгуначны рух з Усходняга Бэрліну ў заходнія сэктары спынены. Цягнікі зь Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі ідуць толькі да станцыі Бэрлін-Фрыдрыхстрасэ. Там усе пасажыры павінны праходзіць кантроль. Колькасьць пагранічных пунктаў з Усходняга Бэрліну ў Заходні зьменшаны з 80-ці да 13-ці. Жыхаром Заходняга Бэрліну, якія жадаюць наведаць ўсходні сэктар, даецца на гэта дазвол, які важны толькі адзін дзень. Пераезд з Заходняга Бэрліну ўва Ўсходні для іх магчымы ў чатырох пунктах.

Улады савецкай зоны Нямеччыны заявілі, што гэтыя мерапрыемствы не датычаць шляхоў спалучэньня заходніх краінаў з Заходнім Бэрлінам. Таксама яны ня тычацца і чужаземцаў, якія наведваюць Усходні Бэрлін.

Паводля паведамленьня замежных карэспандэнтаў з Бэрліну, савецкія танкі разьмешчаныя ў прыгарадных кварталах Усходняга Бэрліну. Савецкія панцырныя аўтамабілі і аддзелы міліцыі савецкай зоны патрулююць чыгуначныя станцыі і кантрольныя пункты на граніцы ўсходняй і заходняй часткі гораду. Частка савецкіх збройных сілаў ува Ўсходняй Нямеччыне пастаўленая ў стан баёвай гатовасьці. Паводля асьветчаньня замежных карэспандэнтаў, настрой жыхароў Усходняга Бэрліну вельмі ўсхваляваны.

14-га жнівеня быў апублікаваны камунікат дзяржаваў Варшаўскага Пакту, у якім уладам савецкай зоны Нямеччыны прапануецца зачыніць граніцу паміж Ўсходнім і Заходнім Бэрлінам. У заяве краінаў Варшаўскага Пакту гаворыцца, што гэтыя мерапрыемствы не павінны датычыць шляхоў зносінаў заходніх дзяржаваў з Заходнім Бэрлінам. За апошнія суткі перад апублікаваньнем указу ўладаў савецкай зоны, колькасьць уцекачоў з гэтак званай Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі на Захад дасягнула трох тысяч чалавек.

13-га жнівеня прадстаўнік уладаў Заходняга Бэрліну заявіў, што закрыцьцё граніцы паміж ўсходнім і заходнім сэктарамі гораду зьяўляецца парушэньнем статуту Бэрліну, які быў падпісаны чатырма дзяржавамі.

Прадстаўнік Задзіночаных Штатаў у Бэрліне выказаўся аб апошніх мерапрыемствах уладаў савецкай зоны Нямеччыны. Ён сказаў, што яны зьяўляюцца сур'ёзным парушэньнем статусу Бэрліну і пагадненьняў чатырох дзяржаваў аб свабодзе руху ўнутры гораду. Прадстаўнік амэрыканскага пасольства ў Боне паведаміў, што, праўдападобна, Задзіночаныя Штаты будуць пратэставаць з прычыны мерапрыемстваў уладаў савецкай зоны.

Гэтыя мерапрыемствы выклікалі хуткую рэакцыю заходніх краінаў. 13-га жнівеня Дзяржаўны Сакратар Штатаў Раск заявіў, што гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца выразным парушэньнем парыскага пагадненьня міністраў замежных справаў чатырох дзяржаваў, падпісанага ў 1949-ым годзе. Згодна з гэтым пагадненьнем, якое тады падпісаў таксама і міністар замежных справаў Савецкага Саюзу, Бэрлін сумесна кіруюць чатыры камэнданты, якія зьяўляюцца прадстаўнікамі Задзіночаных Штатаў, Савецкага Саюзу, Англіі і Францыі. У гэтым-жа пагадненьні прадбачваецца, што да падпісаньня мірнай умовы зь Нямеччынай Бэрлін застаецца падзеленым на 4 сэктары, і, што спалучэньне паміж гэтымі чатырма сэктарамі павінна быць свабодным. У сваёй заяве Раск адзначыў, што Злучаныя Штаты будуць энэргічна пратэставаць супраць аднабаковага парушэньня існуючых міжнародных пагадненьняў.

13-га жнівеня была апублікаваная сумесная заява міністра замежных справаў Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі Брэнтано і лідэра сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны Оленгаўэра. Адзначаючы, што мерапрыемства ўладаў гэтак званай Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі парушае існуючае міжнароднае пагадненьне, Оленгаўэр і Брэнтано таксама заявілі, што пазбаўленьне бэрлінцаў магчымасьці свабоднага руху ў іхным горадзе зьяўляецца злачынствам супраць усякіх людзкіх правоў.

Таксама паведамляецца, што міністар Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі ў агульна-нямецкіх справах Лемэр выступіў праз радыё і тэлевізію з зваротам да насельніцтва Ўсходняга і Заходняга Бэрліну. Ён заклікаў жыхароў усіх сэктараў Бэрліну захоўваць супакой і паўстрымоўвацца ад якіх-небудзь непрадуманых дзеяньняў.

У Боне адбылася нарада сяброў заходня-нямецкага ўраду з пасламі Злучаных Штатаў, Англіі і Францыі. Адначасова ў Бэрліне адбылася нарада трох заходніх камэндантаў, на якой абмяркоўваліся апошнія мерапрыемствы ўраду Савецкай зоны Нямеччыны.

У Лёндане прадстаўнік ангельскага міністэрства замежных справаў адмовіўся даць камэнтары аб палажэньні ў Бэрліне, да таго часу, пакуль заходнія ўрады ня выпрацуюць канчальна сумесную пазыцыю ў гэтым пытаньні. У лёнданскіх дыпляматычных колах заяўляюць, што палажэньне, якое цяпер стварылася, выклікае вялікую ўстрывожанасьць.

Пасьля закрыцьця граніцы паміж Ўсходнім і Заходнім Бэрлінам, ўва ўсходнім сэктары 13-га жнівеня адбылося некалькі дэманстрацыяў у розных пунктах гораду. Дэманстрацыі пратэсту супраць забароны свабоднага руху ўнутры гораду былі разагнаныя міліцыяй, якая пагражала ўжыцьцём зброі. Адна з найбольшых дэманстрацыяў адбылася 13-га жнівеня раніцой на Эбэрвальдэрштрасэ. У ёй брала ўдзел больш за 500 асобаў, якія дамагаліся аднаўленьня свабоды руху. Таго-ж 13-га жнівеня ўвесь дзень вуліцы Ўсходняга Бэрліну патрулявалі танкі і бранявікі, а на граніцы Ўсходняга з Заходнім Бэрлінам хуткім тэмпам будаваліся загароды з калючага дроту. Каля Брандэнбургскай брамы было сканцэнтравана 25 танкаў, 70 бранявікоў і 200 грузавых аўтамабіляў з жаўнерамі. Уцекачы, якія прыйшлі ў Заходні Бэрлін, расказалі, што яны бачылі, як на ўсходня-бэрлінскай таварнай чыгуначнай станцыі 13-га жнівеня выгружаліся савецкія танкі тыпу Т-34. Паводля словаў уцекачоў, савецкія танкавыя і мэханізаваныя аддзелы занялі ўсе подступы да Бэрліну і акружылі гэты горад. 22 савецкія дывізіі, якія знаходзяцца ў савецкай зоне Нямеччыны былі пастаўленыя ў баёвую гатовасьць.

Спыненьне уладамі савецкай зоны Нямеччыны свабоднага руху ўнутры Бэрліну было выкліканае ў першую чаргу жаданьнем перашкодзіць масавым уцёкам насельніцтва Ўсходняй Нямеччыны з Усходняга Бэрліну ў Заходні. 12 жнівеня — апошні дзень вольнага руху — у Заходні Бэрлін з Усходняга перайшло каля 4-ох тысяч чалавек.

Згодна з паведамленьнем уладаў Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі, у Гэльмштэце, на граніцы Заходняй і Ўсходняй Нямеччыны рух адбываецца нармальна ў двух кірунках. Закрыцьцё ўладамі савецкай зоны Нямеччыны граніцаў паміж Заходнім і Ўсходнім Бэрлінам не адбілася на спалучэньні паміж Заходнім Бэрлінам і Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікай.

Трэба спадзявацца, што гэтым фактам заходнія саюзьнікі не задаволяцца. Апошнія мерапрыемствы уладаў савецкай зоны Нямеччыны — дарэчы, прыгадваем, ухваленыя Масквой — гэта першы крок на шляху да абмежаваньня свабоды ня толькі жыхароў савецкае зоны: гэта ўдар па прэстыжы заходніх саюзьнікаў. Пакінуць гэты ўдар без адказу — гэта запрашаць чырвоных панявольнікаў да далейшых падобных крокаў.

# Чаму на Беларусі няма школьных падручнікаў?

За некалькі тыдняў пачынаецца новы навучальны год, а зь ім і новыя клопаты бацькоў і вучняў: на 44-ым годзе будаўніцтва сацыялізму, на пачатку эры камунізму няма на Беларусі школьных падручнікаў. Бацькі й вучні ломяць сабе галаву — дзе іх узяць?

І таму, хоць канікулы яшчэ не законченыя, і дзетвара павінна была-б адпачываць, ўжо цяпер пачаўся ў гарадох Беларусі сапраўдны наступ вучняў на кнігарні — з мэтай набыцьця школьных падручнікаў. Але іх, фактычна, няма, і таму вучні шукаюць іх беспасьпяхова. «Засмучаная выйшла з магазыну № 3 Ліза Таранкова, вучаніца 7-ае клясы Аршанскай сярэдняй школы» — пісала «Настаўніцкая газэта» 29-га ліпеня гэтага году. — «І тут няма падручнікаў, — з горыччу сказала дзяўчынка сваёй сяброўцы Галі Мартынавай». Гэта быў апошні кніжны магазын. Падручнікаў нідзе ня было.

Таго-ж самага дня бегалі ад магазыну да магазыну, шукаючы падручнікаў, дзесяткі дзяцей Воршы, тысячы ў іншых гарадох Беларусі. Пераважна — бяз посьпеху.

Усю віну за вялікую нястачу падручнікаў «Настаўніцкая газэта» ўскладае на настаўнікаў — таму, што яны, маўляў, не заняліся скупляньнем ад вучняў ужываных падручнікаў. Адносна гэтага ёсьць навет інструкцыі міністэрства асьветы. У гэтых інструкцыях гаворыцца: «Кіраўнікі школ праяўляюць бястурботнасьць і безадказнасьць, пусьціўшы на самацёк гэтую важную справу»...

На нашу думку, куды важнейшай справай, чымся зьбіраньне старых падручнікаў настаўнікамі, зьяўляецца выданьне новых падручнікаў. Тады вучні маглі-б спакойна адпачываць да канца канікулаў і бацькі ня мелі-б клопатаў. Так нармальна бывае ў краінах вольнага сьвету. У кожнай кнігарні атрымаеш школьных падручнікаў, колькі хочаш. Яшчэ і падзякуюць, што прыйшоў купіць.

Але ў гэтак званай прагрэсыўнай краіне сацыялізму справа выглядае інакш. Там штогоду паўтараецца адна і тая-ж гісторыя. Перад пачаткам навучальнага году школьных падручнікаў няма.

Трэба падкрэсьліць, што асабліва востра адчуваецца нястача школьных падручнікаў ў нацыянальных рэспубліках. На прапагандовую партыйную літаратуру ў Беларусі выдаткоўваецца вельмі шмат грошай, і гэтай макулятурай заваленыя паліцы кнігарняў. Але на выданьне школьных падручнікаў няма ні фондаў, ні паперы. Асабліва — на выданьне падручнікаў у беларускай мове. Ды, зрэшты, ня толькі на выданьне падручнікаў. У беларускай мове ня выдаюцца такія неабходныя дапаможнікі для вучняў і студэнтаў, як слоўнікі чужых моваў, энцыкляпэдыі, тэрміналягічныя слоўнікі.

Які-ж вынсаў? Беларуская моладзь, у сваёй, быццам-бы «незалежнай» «сувэрэннай» рэспубліцы, пазбаўленая беларускіх падручнікаў і дапаможнікаў. Яна мусіць карыстацца расейскімі, і дзеля таго ня можа ўдасканальваць свае мовы.

Глянуўшы глыбей, пытаньне падручнікаў і дапаможнікаў у беларускай мове — гэта не адасобленая праблема. Тут выразна відаць сувязь гэтага пытаньня з усім комплексам нацыянальнай палітыкі бальшавікоў. Бракуе-ж ня толькі школьных падручнікаў і дапаможнікаў! З году ў год зьмяншаецца колькасьць беларускіх школаў. Пасьля школьнай рэформы шмат беларускіх школаў перайшло на расейскую мову навучаньня. Ёсьць цэлы шэраг школаў, якія зьяўляюцца беларускімі толькі фармальна, бо навучаньне адбываецца фактычна, у расейскай мове. Сюды ў першую чаргу трэба залічыць тэхнікумы і наагул вышэйшыя навучальныя ўстановы. І якраз нястача беларускіх падручнікаў зьяўляецца часта прычынай пераходу школаў на расейскую мову навучаньня. І як-жа гэта можна пагадзіць з савецкімі цьверджаньнямі пра росквіт беларускай культуры? Пададзеныя тут факты, як і мноства іншых, наглядна ілюструюць русыфікацыйную палітыку Масквы на Беларусі.

М. С.

# „Пераможная сымфонія“

Газэта «Советская Белоруссия» ў канцы ліпеня сёлета апублікавала паведамленьне Цэнтральнага Статыстычнага Кіраўніцтва аб выкананьні плянаў разьвіцьця народнай гаспадаркі Беларускай ССР за першае паўгодзьдзе 1961 году. З гэтай прычыны савецкая прэса, каб адзначыць няйснуючыя дасягненьні, не знаходзіць ужо ні звычайных выразаў, ні слоў. У перадавым артыкуле тая-ж «Советская Белоруссия» за 25 ліпеня вынікі працы за паўгодзьдзе прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, капітальнага будаўніцтва і павышэньне матарыяльнага дабрабыту й культурнага ўзроўню жыцьця працоўнага насельніцтва называе ня проста дасягненьнем, а «перамножнай сымфоніяй творчай працы» на шляху да пераможнай пабудовы камунізму.

Што-ж так цешыць камуністычных дырыгентаў у гэтай надзвычайнай сымфоніі? Вось жа коратка спынімся на тых дасягненьнях народнай гаспадаркі Беларускай ССР за першае паўгодзьдзе не ў музычным афармленьні, а на мове звычайных лічбаў. Перш за ўсё ў паведамленьні адзначаюцца посьпехі прадпрыемстваў у вытворчасьці сталі, пракату, трактараў, мэталярэжучых станкоў, камбайнаў, цэмэнту, паперы. Гэтыя прадпрыемствы ня толькі выканалі, але й перавыканалі вытворчыя пляны за паўгодзьдзе. Асаблівыя дасягненьні адзначаны ў вытворчасьці мінэральных угнаеньняў, паўгадовы плян якіх выкананы аж на 143 працэнты.

Калі прыгледзімся бліжэй да гэтых «дасягненьняў», дык убачым, што гэтае перавыкананьне ня такое ўжо значнае; гэтая прамысловасьць базуецца на прывазной сыравіне, а самае галоўнае — уся прадукцыя знаходзіцца ў распараджаньні Масквы. Без дазволу Масквы ні трактар, ні камбайн, ні аўтамабіль, ні цэмэнт ня будзе адпушчаны з прадпрыемства беларускай арганізацыі. Асабліва характэрным і паказальным у гэтым выпадку зьяўляюцца вытворчасьць і выдабываньне мінэральных угнаеньняў. Як ужо вядома, некалькі гадоў таму ў Старобінскім раёне на Случчыне знойдзеныя надзвычай багатыя залежы калійнай солі, якая зьяўляецца высокавартасным мінэральным угнаеньнем. Яшчэ ў мінулым годзе на месцы залежаў былі пабудаваныя першай чаргі шахты і пачатае выдабываньне калійнай солі. Беларускія шахцёры працавалі добра і плян выдабываньня солі ў першым паўгодзьдзі выкананы аж на 143 працэнты. Аднак здабытая ў нетрах беларускай зямлі соль у гэтым годзе на палі беларускіх калгасаў ня трапіла, а была вывезена далёка за межы Беларусі. У гэтым годзе для Беларусі мінэральных угнаеньняў адпушчана Масквою на 48 тысяч тон меньш, чымся у мінулым годзе.

Некалькі заўвагаў аб «дасягненьнях» сельскай гаспадаркі. Як і ў мінулым годзе, плян веснавой сяўбы выкананы на 102 працэнты. Уся пасяўная плошча разам з азімымі пасевамі складае 5 мільёнаў 894 тысячы гэктараў. Як на асаблівае «дасягненьне» ў паведамленьні адзначаецца павялічэньне пасяўных плошчаў кукурузы, якая дасягнула ўжо 528 тысяч гэктараў; апрача гэтага, яшчэ засеяна 26 тысяч гэктараў цукровых буракоў на корм жывёле. Такім чынам, у вагульнай плошчы пасеваў кукуруза і цукровыя буракі займаюць амаль 10 працэнтаў. Апошнія пяць гадоў пасевы кукурузы адбіраюць найлепшыя землі. На зерне-ж яна на Беларусі ня высьпявае і выкарыстоўваецца толькі на зялёны корм і часткова на сілас. Такое выкарыстоўваньне зямлі давяло да таго, што ўраджаі збожжавых культур і бульбы сталіся меншымі, чымся былі сорак гадоў таму.

Апошнімі гадамі на Беларусі значна павялічылася колькасьць саўгасаў коштам зьліквідаваных калгасаў. Аднак савецкія дзяржаўныя гаспадаркі працуюць дрэнна, саўгасы замест прыбыткаў даюць мільённыя страты. Толькі адзін саўгас «Вяляцічы» на Барысаўшчыне даў за год стратаў тры мільёны рублёў. У гэтай гаспадарцы кожны цэнтнар сьвініны жывой вагі каштуе 32.45 рублёў.

У паведамленьні Статыстычнага Кіраўніцтва ёсьць адмысловы разьдзел пад назвай «Павышэньне матарыяльнага дабрабыту й культурнага ўзроўню жыцьця народу». У гэтым разьдзеле адзначана, што лік работнікаў і ўрадоўцаў у народнай гаспадарцы Беларусі павялічыўся ў параўнаньні зь першым паўгодзьдзем мінулага году на 192 тысячы чалавек. Толькі ў васноўным праведзена упарадкаваньне заработнай платы работнікаў і ўрадоўцаў у некаторых галінах прамысловасьці. Паведамляецца, што тавараварот у гандлёвай сетцы ў першым паўгодзьдзі выкананы толькі на 97 працэнтаў. У параўнаньні зь першым паўгодзьдзем 1960 году, продаж мяса і каўбасных вырабаў у першым паўгодзьдзі гэтага году зьменшыўся на чатыры працэнты, рыбапрадуктаў — на тры працэнты, а масла — на шэсьць працэнтаў. На адзінаццаць працэнтаў зьменшыўся продаж баваўняных вырабаў. Паведамленьне аб гандлёвых апэрацыях канчаецца так: «Ня гледзячы на павялічэньне розьнічнага тавараабароту, попыт насельніцтва на шмат якія тавары народнага ўжываньня ня быў поўнасьцю задаволен.»

Так гучыць «пероможная сымфонія творчай працы» у Беларусі.

В. Б.

# Hannibal ante portas

Аднойчы на міжжывёльнай канфэрэнцыі тыгр скардзіўся на карову. Ён даказваў: «Карова — гэта небясьпечны зьвер, бо калі я на яе нападаю — яна бароніцца».

Гэтай пераробленай францускай прымаўкай можна было-б схарактарызаваць выступленьне Хрушчова 11-га жнівеня на мітынгу савецка-румынскай прыязьні ў Маскве. Гэтая прамова мела вынятково войстры характар, хоць і бяз стуканьня чаравікам па стале. У пэўным мамэнце Хрушчоў, як прыгаданы тыгр, скардзіўся, што Савецкаму Саюзу і «сацыялістычнаму лягеру» пагражаюць навет — і Турцыя, і Грэцыя, і Італія, і Данія і Нарвэгія — усе разам і кожная паасобку. Але зараз-жа, з тыповай для яго некансэквэнтнасьцяй, сам пагразіў, што Савецкі Саюз можа ў кожную хвіліну сваімі ракетамі сьцерці гэтыя краіны з аблічча зямлі. Гэтыя малыя краіны, дый увесь Захад наагул, пагражаюць Хрушчову толькі тым, што калі ён на іх нападзе — яны будуць бараніцца.

Хрушчоў, пэўна-ж, гаварыў і аб «мірным суіснаваньні» і «мірным спаборніцтве дзьвюх сыстэмаў». Але пасьля 15-цігадовай практыкі й нязьлічоных правакацыяў Масквы хіба толькі апошні туман не разумее, што гэтае «мірнае суіснаваньне» можа быць зьдзейсьненае толькі на маскоўскіх умовах, а ягоным канчальным вынікам мусіць быць поўная капітуляцыя Захаду. Мэта Масквы ясная: кіраўнікі дзяржаваў вольнага сьвету мусяць здацца на ласку й няласку камуністычных кіраўнікоў, якія узнагародзілі-б паводля заслугаў і адных «шлёпнулі-б», іншых паслалі-б дажываць век у лягеры, а некаторым, як прыкладам Нэру, маглі-б навет часова даць пасады паштальёнаў у правінцыянальных гарадках. Іншага мірнага суіснаваньня камуністычныя дыктатары ня прызнаюць і ніколі ня прызнаюць.

Кожная савецкая публікацыя, кожнае выступленьне чырвонага завадзілы шчыра й выразна гаворыць, што ўвесь сьвет мусіць быць — і будзе — камуністычным. Аднак, як на дзіва ў вольным сьвеце або ня вераць, або не разумеюць гэтых шчырых выказваньняў, або ня хочуць іх разумець, або, калі разумеюць, дык шмат замала робяць у кірунку абароны. Запраўды, часам здаецца, што заходні сьвет з нейкім усходнім фаталізмам сьведама й наважана ідзе насустрач сьмерці... Нядаўна прэзыдэнт Кэнэды сказаў рашучую, мужную прамову, запраўды годную мужа такога маштабу, якім зьяўляецца прэзыдэнт ЗША. Над гэтай прамовай Хрушчоў ня мог не задумацца. Аднак, пару дзён пазьней дзяржаўны сакратар злагоджваў рашучы тон гэтай прамовы, а яшчэ пазьней пасол у СССР яшчэ больш яе замазаў. А кожны-ж мусіць усьведамляць, што з абнаглелымі імпэрыялістымі трэба гаварыць цьвёрдай мовай і, каб ратаваць мір і сьвет, трэба мець адвагу хадзіць па мяжы вайны, чаго так ня любяць і баяцца камуністычныя верхаводы.

У сувязі з гэтым трэба шчыра вітаць міжамэрыканскую эканамічную канфэрэнцыю, якая 5-га жніўня пачалася ў Пунта дэль Эст ува Уругваі з ініцыятывы прэзыдэнта Кэнэды. Можна толькі шкадаваць, што гэта сталася так позна. Але ёсьць людзі, якія ясна ўсьведамляюць, што Hannibal ante portas і хочуць гэтыя брамы абараняць.

У канфэрэнцыі бяруць удзел прадстаўнікі 21-эй краінаў Амэрыкі. Праграма прэзыдэнта Кэнэды, якая прадбачвае вялізарную дапамогу эканамічна адсталым краінам гэтага раёну зямной кулі — запраўды шчодрая і была сустрэнутая прыхільна. Адзін толькі дэлегат Кубы Гавара ў сваіх выступленьнях войстра нападаў на ЗША. Але й ён урэшце абвесьціў, што Куба ня мае намеру выходзіць з Арганізацыі Амэрыканскіх краінаў. Ён уцяміў, што, застаючыся ў Арганізацыі, і Куба атрымае пару мільёнаў даляраў амэрыканскай дапамогі. А, як кажа старая прыказка: pecunia non olet — грошы не сьмярдзяць — ўсёроўна адкуль яны прыходзяць — з Вашынгтону ці з Масквы.

Мы ўжо ня раз гаварылі і паўтараем: ліквідацыя нэндзы ў эканамічна адсталых краінах — бадай найважнейшая перадумова абароны гэтых краінаў ад камунізму. Агульна ведама, што дзе пануе голад і галеча, там маланкава пашыраюцца інсэкты, хваробы і камунізм. Але толькі матарыяльнай дапамогай нельга перамагчы або паўстрымаць камунізм, бо, як выяўляецца, навет гэтую дапамогу, калі яна даецца хаатычна, неперадумана, камуністыя ўмеюць нахабна выкарыстоўваць дзеля сваіх мэтаў. Тут прыгадаем бліскучы даклад францускай пісьменьніцы Сюзанны Лябэн на сёлетняй Канфэрэнцыі Інстытуту вывучэньня СССР. Яна расказала, што будучы ў Індыі, бачыла, як бедныя гіндускія работнікі ў аднэй руцэ несьлі мяшок рысу, які яны атрымалі з амэрыканскай дапамаговай арганізацыі, а ў другой — савецкую брашуру, у якой яго пераконваюць, што гэты амэрыканскі рыс — атрута, бо той, хто зьесьць яго, падпадае пад новы амэрыканскі каляніялізм і што толькі Савецкі Саюз — прыяцель усіх народаў — бескарысна ім дапамагае.

Цяпер дадамо ад сябе: Улезем у скуру гэтага беднага нясьведамага Гіндуса. Ён стаіць на раздарожжы, бо ня ведае, што раней зьесьці: салодкую савецкую брашуру, ці амэрыканскі рыс... Пэўна-ж, ён зьесьць рыс, але прачытае брашуру, а калі сам ня ўмее чытаць, дык знойдуцца ўслужлівыя грамацеі, якія прачытаюць і магчыма вычытаюць там яшчэ

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Два аспэкты праекту новай праграмы КПСС

**Нацыянальнае пытаньне**

Мінулі тыя часы, калі камуністычная партыя вуснамі Леніна й Сталіна ў зваротах да народаў былой Расейскай імпэрыі абяцала захоўваць іхныя нацыянальныя звычаі й традыцыі.

Новая праграма КПСС абяцае народам Савецкага Саюзу не далейшае разьвіцьцё іхнай нацыянальнасьці, не нацыянальную дзяржаўнасьць, а «сьціраньне межаў паміж нацыянальнымі рэспублікамі» і растварэньне іхных нацыянальнасьцяў у агульнай масе савецкага народу.

Адначасова, новая праграма партыі пераконвае маладыя народы Азіі й Афрыкі адмовіцца ад сваіх запраўды нацыянальных урадаў, стварыць рэжым нацыянальнай дэмакратыі, што фактычна раўназначнае з прызнаньнем гэгэмоніі камуністых ува ўрадах гэтак званага нацыянальнага фронту. Далей праграма КПСС пераконвае гэтыя народы спыніць сувязі з заходнім сьветам і перайсьці на шлях «некапіталістычнага» разьвіцьця.

Ідучы за прапагандовым мэтадам Заявы маскоўскай нарады прадстаўнікоў камуністычных партыяў, новая праграма КПСС далей іграе на нацыянальных пачуцьцях і народаў Савецкага Саюзу, і маладых дзяржаваў Азіі й Афрыкі. Народам Савецкага Саюзу праграма абяцае «удасканаліць формы нацыянальнай дзяржаўнасьці», «ўсебаковае разьвіцьцё гаспадаркі рэспублік». Але гэтыя абяцаньні трацяць свой сэнс, калі тут-жа праграма заяўляе аб неабходнасьці сацыялістычнага распадзелу працы паміж савецкімі рэспублікамі, аб сьціраньні паміж імі межаў і нацыянальных розьніцаў.

Разьдзел новай праграмы, у якім гаворыцца аб заданьнях нацыянальнай палітыкі партыі, мае назоў «заданьні партыі ў галіне нацыянальных дачыненьняў». Але зь пералічаных у гэтым разьдзеле заданьняў і мэтаў мы зусім ясна бачым, што яму больш адпавядаў-бы назоў накшталт такога: «Аб заданьнях партыі ў галіне дэнацыяналізацыі й русыфікацыі нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу.»

Праграма, фактычна, не пакідае ніякай магчымасьці для нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу разьвіваць іхную эканоміку й культуру, не гаворачы ўжо аб магчымасьці нацыянальнага й палітычнага разьвіцьця. Не падлягае ніякаму сумліву, што ўсе нацыянальныя абмежаваньні, адлюстраваныя ў праграме, як-бы яны ня былі фармуляваныя, тычацца толькі нерасейскіх народаў. Паўстагодняя практыка бальшавізму ў СССР зьяўляецца найлепшым сьветчаньнем таго, што такія абмежаваньні ніколі не ўскладаліся на расейскі народ, што расейская гісторыя, культура й расейскі нацыяналізм бесперапынна ўзьвінчваліся і ўзьвінчваюцца партыяй на ступень найвышэйшага шавінізму.

У пытаньні далейшага нацыянальнага разьвіцьця народаў маладых дзяржаваў Азіі й Афрыкі аўтары праграмы, наадварот, выявілі вялікую асьцярожнасьць. У разьдзеле аб нацыянальна-вызвольных рухах на гэтых кантынэнтах гаворыцца аб «неабходнасьці стварэньня нацыянальнай прамысловасьці» й аб «нацыянальным адраджэньні народаў». Але вялікі націск кладзецца на неабходнасьць тварэньня гэтак званых «нацыянальных фронтаў», на «забясьпячэньне нацыянальнай незалежнасьці» шляхам стварэньня дзяржаўнай сыстэмы гэтак званай «нацыянальнай дэмакратыі», усюды жанглюючы тэрмінамі «нацыянальныя дзяржавы», «нацыянальныя інтарэсы народаў». Ува ўсіх гэтых выказваньнях Крэмль выстаўляе толькі камуністых запраўднымі абаронцамі нацыянальнай незалежнасьці маладых афрыканскіх і азіяцкіх краінаў і найбольшымі прыхільнікамі адраджэньня іхных нацыянальных культураў.

Такім чынам, нацыянальныя лёзунгі й звароты да нерасейскіх народаў былой царскай імпэрыі, абвешчаныя бальшавікамі пасьля іхнага прыходу да ўлады, Крэмль крывадушна намагаецца цяпер выкарыстаць яшчэ раз, гэтым разам у дачыненьні да народаў, вызваленых ад заходняй каляніяльнай залежнасьці. Кіраўнікам і грамадзкасьці гэтых маладых народаў трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьдзел праграмы КПСС аб разьвіцьці нацыянальных дачыненьняў ў СССР, бо калі-б у іхных краінах да ўлады прыйшлі камуністыя, як гэта ім настырліва прапануе Масква, іх сустрэўбы такі-ж страшны лёс, які перажываюць цяпер нерасейскія народы Савецкага Саюзу. Яны павінны ведаць, што поўнае нацыянальнае, фізычнае й духовае паняволеньне, паступовая дэнацыяналізацыя й русыфікацыя ды каляніяльная эксплёатацыя народаў — гэта праграма, якая тычыцца ня толькі нерасейскіх народаў СССР ці краінаў сатэлітаў, але ўсіх народаў сьвету, якія праз сваю нясьведамасьць ці неасьцярожнасьць трапяць у пятлю маскоўскага ці якога-небудзь іншага камуністычнага таталітарызму.

**Савецкі «сацыялізм»**

Трэба таксама адзначыць, што праект новай праграмы КПСС знарок уводзіць у блуд народы Азіі й Афрыкі сваёй тэр-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Сёе-тое

Пастанова ўраду Вялікае Брытаніі пачаць перамовы, каб уступіць у Эўрапэйскую Эканамічную Супольнасьць, званую папулярна Эўрапэйскім Вольным Рынкам, прынясе ў далейшым засягу шмат добрага для вольнага сьвету. У менацінаваную Супольнасьць, як ведама, ўваходзіць Нямеччына, Францыя, Італія, Галяндыя, Бэльгія і Люксэмбург. Гэта Супольнасьць даўно апраўдала сябе ў вольным гандлі. Цяпер, з прыходам В. Брытаніі, колькасьць патэнцыяльных спажыўцоў павялічылася да звыш 250 міліёнаў. Гэта будзе салідны эканамічны блёк між амэрыканскім з аднаго боку і ўсходня-камуністычным з другога. Адзін крок бліжэй да рэалізацыі палітычнага аб'еднаньня Эўропы.

*

Мо найбольш цікавым гэрэтыкам у камуністычнай сям'і зьяўляецца Альбанія. Дыктатар Годжа ёсьць заядлым сталіністым. Ды можа-б ён і ня вытрымаў ціску з боку Масквы, калі-б Мао яму не памагаў. Кітайцы самі галаднаватыя, але калі вязуць закупленую з Канады пшаніцу, дык жменю і на альбанскі бераг сыпнуць, каб і карантыш побач маскоўскага молаха на нагах утрымаўся. А Мао-ж, бязумоўна, за чубы з Масквой не цягаецца, але часам любіць Мікіту на балючы палец наступіць. Вось дык і сямейка!

*

Амэрыканцы нарэшце адкрылі Паўдзённую Амэрыку. Часапіс «Ляйф» ужо ад даўжэйшага часу знаёміць грамадзян ЗША і іншых зацікаўленых з праблемамі паўдзённых суседзяў, куды й Маскалі й Кітайцы намагаюцца сунуць свае лапы.

Не дарма прэзыдэнт Кэнэды зьвярнуў асаблівую ўвагу на Паўдзённую Амэрыку. У такіх краінах як Пэру ці Балівія два працэнты людзей мае 90% усіх багацьцяў, а рэшта або мае мала або нічога. Бяда такая страшэнная мясцамі, што цяжка уявіць. І ня дзіва, што людзі любяць тое, што суліць Кастро ці Масква.

Дык лепш прыйсьці людзям з дапамогай позна, чым ніколі...

Ня так даўно ніжэйпадпісанаму давялося быць вымушаным слухачом трохгадзіннага апавяданьня аб тым, як у вадным беларускім асяродку праходзіць «барацьба». Так і не ўдалося дакладна высьвятліць, хто ізь кім і за што змагаецца. Апавяданьне перасыпалася такімі слоўцамі, як «вуніяты», «праваслаўныя», «камітэт абароны», «ворагі» й інш. Заслуханы матар'ял у шматлікіх месцах падыходзіў да сцэнічнай камэдыі.

Ясна было адно, што некаторыя людзі (але-ж, навет «дзяржаўнага» маштабу) дурэючы з гультайства, займаюцца донкіхоцтвам.

Як ня сорамна!

*

Кагадзе на пікніку адбылася гутарка аб зьмесьце й матар'яле газэты «Бацькаўшчына».

Першы ўдзельнік: — Занадта даўгія артыкулы. Каб яны падзялілі іх хаця кажны на два...

Другі: Раскрыеш газэту й бачыш, што ўся складаецца з трох артыкулаў, ды пісаных тымі самымі пару чалавекамі. Ахвота адпадае чытаць...

Трэці: Варта было-б менш займацца тымі бальшавікамі, а шырэй глянуць, іншыя праблемы парушаць.

Трэба заўважыць, што ўсе тры некалі так ці йнакш займаліся публіцыстыкай.

— Чаму-ж вы не паможаце зрабіць газэту цікавейшай? Скажэце, калі каторы з вас што напісаў? — спытаў я.

Глухое маўчаньне ў вадказ. Адным словам, пык-мык, мая хата з краю...

Што й патрэбна было давесьці: замнога хат з краю, а крытыкаў цьма.

Міхась Козыр

**Ант. Адамовіч**

# Алесь Гарун

**Жыцьцё й Творы**

**(Працяг)**

Запраўднае ймя Алеся Гаруна — Аляксандар Прушынскі. Паэта нарадзіўся 27-га лютога 1887 г. (ст. ст.) у Менску, на Багадзельнай вуліцы,[3] у сям'і чарнарабочага. Бацька ягоны Валадзімер Прушынскі й маці Зофія (з роду Жывіцаў) былі тыповыя прадстаўнікі працоўнай прастанароднай грамады менскіх Беларусаў-каталікоў, спрадвечных жыцельнікаў места. Зараблялі яны мала, а сям'я была досыць вялікая, дзеля таго жылі Прушынскія зусім бедна. Маленькі Алесь рана вызначаўся сваймі здольнасьцямі. Пяцёх гадоў навучыўся ён чытаць папольску й памаскоўску. На сёмым годзе пачаў ён хадзіць у 3-е гарадзкое прыходзкае вучылішча (на Белацаркоўнай вуліцы), але ў трэйцім аддзяленьні праседзеў два гады, бо яго, такога недалетку, не дапусьцілі першы год да экзаменаў. Скончыўшы гэтае вучылішча ў 1897 годзе й пачакаўшы спаўненьня гадоў, падаўся ён у 1899 г. у менскую школу рамесных вучняў. У школе прабыў тры гады (1899—1902) і скончыў яе па дрэваапрацоўным аддзяленьні. У часе вучэньня, улетку й узімку выяжджаў ён на вакацыі ў вёску да свае цёткі. Там рабіў усё, што рабілі брацельнікі, пасьвіў коні, ганяў авечкі, вазіў гной і г. д. Ад 16-х гадоў жыцьця (1902 г.) працаваў Прушынскі як сталяр у розных майстроўнях Менску, паміж іншага быў мадэльнікам на хвабрыцы Івана Шышлы, і так бязвыезна прабыў у месьце аж да 1907 г. Увесь гэты час ён шмат чытаў для самаадукацыі й разьвіцьця. Увайшоўшы ў 1904 г. у менскую арганізацыю сацыялістых-рэвалюцыянераў, Прушынскі вёў да 1907 г. прапаганду сярод менскай вучнёўскай моладзі й работнікаў, часам, але дужа рэдка, выходзіў і на вёску. Найлягей удавалася яму арганізаваць моладзь у вучнёўскія рэвалюцыйныя гурткі. У 1907 г., 4-га сакавіка (ст. ст.) паліцыя накрыла паэту-агітатара ў нелегальнай друкарні. Яго арыштавалі, пасадзілі ў васобную камару вайстрогу ў Менску й аддалі пад суд. З гэтае пары пераламалася жыцьцё Прушынскага — з аднэй, быць можа, карысьцяй для яго, што пачаў пільней займацца сваймі творамі. Здольнасьць да пісаньня вершаў была ў яго змалку, але спачатку Прушынскі пісаў іх памаскоўску й пераважна ў гумарыстычным тоне. З уваходам яго ў партыю, творчасьць прыняла сур'ёзны й рэвалюцыйны кірунак. На шкоду, усе ягоныя вершы таго часу пагінулі. Пісаць пабеларуску Гарун пачаў ад 1905 г., а беларускае друкаванае слова першы раз пабачыў у 1903 ці 1904 годзе, выпадкам знайшоўшы абадраную, запэцканую, без пачатку й канца, цікавую кніжку, друкаваную лацінкай. Як надта вялікі ахвотнік да чытаньня й уважны цікун усякага друку, ён пачаў чытаць і гэтую кніжку, думаючы, што яна польская. Але зь першых-жа прачытаных словаў нязвычайна зьдзіўлены хлапец пачуў, як неўспадзеўкі закалацілася ў яго сэрца, на вачох, няма ведама чаго, накруціліся сьлёзы. Перад вачмі было тое, чаго ніколі ня бачыў: сваё роднае, хатняе друкаванае слова! Гэта было, як паэта пазьней даведаўся, старое выданьне аповесьці «Гапон» Марцінкевіча. У 1905—1906 гадох напісаў ён і пашыраў сярод моладзі й работнікаў колькі сацыяльна-рэвалюцыйных вершаў, цяпер згубленых ці нікім яшчэ ня знойдзеных («Чаму так, скажэце, жывецца на сьвеце?» й інш.). Тады на яго мелі ўплыў вершы Цёткі, ейныя ананімныя адозвы й лістоўкі, якія разам з «Нашаю Ніваю» й рознай агітацыйнай літаратурай пашыраў Прушынскі. Пасядзеўшы ў менскім, а патым у віленскім («на Лукішках») вайстрозе, паэта ўвесну 1908 г. быў засуджаны на катаргу, якую пазьней замянілі на засланьне. Ссылку адбываў Гарун у Кірэнскім павеце Іркуцкай губэрні. Спачатку жыў у невялікім чалдонскім сяле Макараўскім, ля ракі Лены — 71 вярста ад Кірэнску й 971 вярста ад Іркуцку; патым у вёсцы Крывая Лука, 18 вярстоў ад Макараўскага. Займаўся там сталярскімі й цясьлярскімі работамі, выпісваў разам зь іншымі засланымі шмат кніжок і газэтаў, каб не памерці духова. Па двух гадох перайшоў ён (у 1911 г.) на «Параходзтва Глотавых» ля Кірэнску (у самым месьце жыць было забаронена) і працаваў там да вясны 1914 г., калі па маніфэсьце быў запісаны ў сяляне й дастаў права жыць па ўсім Сібіру. Тамжа знайшлі яны адзін аднаго зь Язэпам Лёсікам. Ад 1914 г. Гарун быў на Лене вадалівам, даплываў аж да Якуцку. На баржы № 18 рыхтаваў ён да друку свой зборнік «Матчын Дар», пасланы ўвосень 1914 г. у Вільню. Ад 1915 г. паэта падаўся на прыйскі ў Бадайбо, дзе й дачакаўся рэвалюцыі. У часе кераншчыны быў сябрам выканальнага камітэту Ленскага Залатапрамысловага Вокругу, адкуль яго абралі на паўнамоцнага па абароне працы. У Менск вярнуўся (па 9 гадох) 22 верасьня 1917 г. — з разьбітым здароўем, худы, зжаўцелы, з заўсёдным далікатна-тужлівым паглядам і нейкай дакорнай маўклівасьцяй. Нікаліва не адпачыўшы, адразу завінуўся ля беларускай грамадзкай працы — езьдзіў на ўсерасейскі беларускі ўцякацкі зьезд у Маскву, на зьезд народаў Расеі ў Кіеў, працаваў у розных інстытуцыях Менску, кіраваў палітычны аддзел Вялікай Беларускай Рады, арганізоўваў сялян і г. д. На Ўсебеларускім Кангрэсе ў Менску (1917 г.) паэта Гарун быў памачнікам старшыні Кангрэсу. Пазьней рэдагаваў «Беларускі шлях» [4] і дзейна памагаў у «Вольнай Беларусі». Пры бальшавікох працаваў у сацыяльным забясьпечаньні. Увесну 1919 г. цяжка хварэў на тыфус. У пачатку польскай акупацыі быў старшынём Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Менску, патым перайшоў у беларускую вайсковую арганізацыю.

Алесь Гарун памёр 28-га ліпеня 1920 г. і пахаваны ў Кракаве.[5]

На аснове некаторых, вельмі нялічных аднак, выдрукаваных успамінаў, а таксама чутага й разьведанага асабіста, можна крыху ўдакладніць гэтую даведку. Найперш, што да Гаруновых бацькоў, як «спрадвечных жыцельнікаў места», паводля гэтае даведкі. Прозьвішчы іхныя — Прушынскі й Жывіца — больш падаюць на шляхоцкія, чымся на мяшчанскія, і можна гадаць, што й іхная «мескасьць» ня гэткая ўжо «спрадвечная», і што паходжаньне іхнае можа сягаць шляхты, дробнае ці здрабнелае, магчыма не «зацьверджанае» ў «дварансьцьве» пры пераходзе пад Расейскую імпэрыю. У бальшыні гэткая «незацьверджаная» шляхта прыпісвалася да сялянства, радзей да мяшчанства, як магло быць у дадзеным выпадку (і як, найпраўдападабней, было ў выпадку Купалавага бацькі), ды эканамічна найчасьцей ад іх і ня розьнілася, адылі пачуцьцё нацыянальнасьці й традыцыі захоўвала куды лепш, на што сваім часам добра паказваў Язэп Лёсік (у артыкуле «Культурны стан Беларусі да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г». У зборніку «Беларусь» выданьня ЦВК БССР, 1924 г.). Калі-б гэта было так, дык паходжаньнем сваім Гарун у канцавым выніку ня розьніўся-б ад пераважнае бальшыні нашаніўцаў, пачынаючы ад успомненага ўжо Купалы, а мо нат і Коласа.

Яшчэ большае й важнейшае ўдакладненьне можна зрабіць у палітычнай, сьціслей, партыйнай біяграфіі Гаруна. Ужо ў савецкіх выданьнях тае-ж «Гісторыі Беларускае Літаратуры» Максіма Гарэцкага прыналежнасьць яго да сацыялістых-рэвалюцыянераў («эсэраў») была ўдакладненая дадаткам «максымалістых», і гэта было паўторанае і ў уступным артыкуліку да ўспамінанага вышэй акадэмічнага выданьня «Матчынага Дару», напісаным праф. А. Барычэўскім.[6] Адылі, галоўнае й нікім дасюль не адзначанае ня ў гэтым, а ў тым, што

# Два аспэкты праекту новай праграмы КПСС

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

міналёгіяй. У праграме ўвесь час гаворыцца аб сацыялізьме. Гаворыцца аб «сацыяльным прагрэсе», расказваецца аб сацыялізьме, як «шляху народаў да свабоды й шчасьця», выхваляецца «сацыялістычная эканоміка» і пералічаюцца ўсе дабрадзействы «сацыялізму».

Але гаворачы аб сацыялізьме складальнікі праграмы замоўчваюць той факт, што ў ёй маецца на ўвазе савецкі сацыялізм, сацыялізм таталітарнае дзяржавы, і тым самым адмаўляецца існаваньне іншых відаў сацыялізму ўва ўмовах свабоднага грамадзтва, як, прыклад, сацыялізм ў скандынаўскіх краінах. Аб тым-жа, што гэты від некамуністычнага сацыялізму можа даць маладым афрыканскім дзяржавам больш, чымся савецкі сацыялізм, сьветчаць ураженьні прэм'ера Сэнэгалю Мамаду Дзія, атрыманыя ім ў часе ягонага падарожжа па Эўропе.

На прэсканфэрэнцыі ў Дакары сэнэгальскі прэм'ер Мамаду Дзія заявіў, што скандынаўскі сацыялізм прадстаўляе сабой вялікую цікавасьць для афрыканскіх народаў, як узор прагрэсыўнай грамадзкай структуры. Паводля назіраньняў прэм'ера Мамаду Дзія сацыялізм у Швэцыі дамогся вельмі высокага жыцьцёвага ўзроўню для насельніцтва, захаваўшы пры гэтым асабістыя і палітычныя свабоды і прыватную ініцыятыву.

Паводля выпрабаванага рэцэпту камуністычнай прапаганды: «верце нашым словам, а ня фактам», у праграме пералічаныя і заганы «капіталізму», супраць якіх пастаўленыя вельмі-ж сумліўныя перавагі савецкага сацыялізму.

«Што можа даць народам былых калёніяў капіталізм»? — пытаюцца аўтары новай праграмы КПСС. І тут-жа даюць адказ: капіталізм не забясьпечвае хуткага росту эканомікі, руйнуе сялянства, прымушае працоўных цяжка працаваць і не дае масам дабрадзействаў культуры. А цяпер ад слоў камуністычнай прапаганды зьвернемся да фактаў.

Праграма цьвердзіць, што: «Капіталізм не забясьпечвае хуткага прагрэсу эканомікі». Але ці ў сапраўднасьці гэта так? У Злучаных Штатах, у Заходняй Нямеччыне, у Англіі і Францыі мы бачым дастатак усякіх прадуктаў харчаваньня. Адначасова ў камуністычных краінах — у Савецкім Саюзе, ува ўсходняй зоне Нямеччыны, у Кітаі і іншых краінах увесь час адчуваецца нястача прадуктаў. 7-га жнівеня ў сваёй прамове, якая была перададзеная праз радыё і тэлевізію, Хрушчоў проста заявіў аб тым, што ўзровень вытворчасьці сельска-гаспадарчых прадуктаў быў «ніжэйшым за магчымасьці» і што гэта «стварыла пэўныя цяжкасьці забесьпячэньня гарадоў такімі прадуктамі, як мяса, малако і — нават — гародніна.» І гэта на 44-ым годзе існаваньня савецкай улады! А вось іншы прыклад: у той час, як у Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы гаспадыня ня турбуецца тым, дзе і як купіць масла, мяса й малако — ува Ўсходняй зоне Нямеччыны ўрад Ульбрыхта абмежаваў да мінімуму спажываньне насельніцтвам тлушчаў і мясных прадуктаў. Насельніцтва-ж камуністычнага Кітаю проста галадае. Вось-жа ўсе гэтыя факты якраз і запярэчваюць праграме КПСС, што савецкі сацыялізм зможа забясьпечыць народам Азіі й Афрыкі хуткі прагрэс эканомікі.

# Hannibal ante portas

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

больш, чымся ў ёй напісана. З такой брашуры ён пачуе нахабнае бессаромнае цьверджаньне, што, маўляў, каб Амэрыканцы не перашкаджалі, дык Масква задаволіла-б яго ня толькі рысам, але і ўсімі дэлікатэсамі, аб якіх ён і ня сьніў. Ніякага запярэчаньня гэтай прапагандовай хлусьні Захад не праводзіць. Ствараецца запраўды парадаксальнае палажэньне, і Гіндус, Ветнамец ці Гвінэец рэгулярна йдзе атрымоўваць амэрыканскі рыс, але ў душы ненавідзіць Амэрыканцаў, бо яму камуністычныя агенты з усіх бакоў дзяўбуць у галаву, што, каб не Амэрыканцы, ён-бы штодзённа еў савецкія катлеты й запіваў-бы савецкім шампанскім. Аб тым, што грамадзяне Савецкага Саюзу рэдка бачаць шампанскае, а яшчэ радзей катлеты — ён ня ведае. Той, хто павінен быў-бы гэта сказаць — забыўся, а той, хто не забыўся, ня скажа...

Ад 1956 году заходнія дзяржавы далі слабаразьвітым краінам каля 30-ці мільярдаў даляраў дапамогі, з чаго палавіну дала Амэрыка. У гэтым самым часе краіны камуністычнага блёку далі толькі чатыры з палавінай мільярды даляраў. Калі пры гэтым улічым, што савецкая дапамога ў шмат-якіх выпадках мае сумліўную вартасьць і дэструкцыйны характар (узбраеньне), дык пабачым, што яна нязначная з дапамогай заходняй. Але затое за кожным савецкім рублём шлецца тысяча рублёў на прапаганду і едзе падкаваны агітатар — няважна пад якой маскай: інжынера, каміваяжэра, турыстага ці буддыйскага манаха.

Такім чынам, даючы рубель, Масква робіць столькі прапагандовай шуміхі, як быццам дала мільён.

Змаганьне йдзе на сьмерць і жыцьцё. Супраць разьюшанага ворага, які йдзе з налітымі крывёй вачыма і з сякерай у руках, нельга выступаць у белых рукавічках з ветлівай ухмылкай добра выхаванага джэнтэльмэна. Тут трэба таксама брацца за сякеру і ратавацца пакуль можна.

пс

*Зь гісторыі Беларусі*

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

Працяг з папярэдняга нумару)

Здавалася-б умовы наступных 1479-1480 гадоў павінны былі-б сьхіліцца ў карысьць ВКЛ ды прымусіць нарэшце самога Казімера выкарыстаць дадзеныя абставіны для палагоджаньня літоўска-маскоўскага канфлікту, для адхіленьня пагражальнае маскоўскае небясьпекі. У той час, калі Казімер замірыўся з Вугоршчынай і Крыжацкім орданам, у канцы 1479 году ў Ноўгарадзе насьпела змова ноўгарадзкіх баяраў супраць Маскоўшчыны, падрыхатаваная, праўдападобна, пры ўдзеле Літоўскай Рады ды што мела наўвеце прылучыць Ноўгарад да ВКЛ. Адначасна да вайны з Пскоўшчынай і Маскоўшчынай падрыхтоўваліся Лівонія й Швэцыя. Апошнія ў канцы 1479 — першай палавіне 1480 году пачалі шукаць зьбліжэньня з ВКЛ і Казімерам з мэтай падпісаньня вайсковага саюзу супраць Івана III. Праўда, ім ужо была знаёмая гісторыя, зьвязаная зь недапушчэньнем Вялікага Княства Літоўскага да вайны з Маскоўшчынай, а таму яны зь першых крокаў у пошуках гэтага паразуменьня пачынаюць вагацца між выбарам: зьвярнуцца з гэтай прапановай да самога Казімера, як галавы ВКЛ, ці толькі да Літоўскае Рады, што ўсё-ткі не пагаджаецца з палітыкай Казімера ды адкрыта імкнецца да вайны з Маскоўшчынай. Напрыклад, у пасольстве лівонскага магістра да прускага вялікага магістра лівонскі магістар проста прасіў наступныя парады: а) праводзіць гэтак перамовы ў справе падпісаньня вайсковага саюзу супраць Маскоўшчыны толькі зь Літоўскай Радай і бязь ведама Казімера, зь якім самі Ліцьвіны потым дойдуць да паразуменьня; б) праводзіць іх адкрыта з Казімерам, але праз Літоўскую Раду; в) або зьвярнуцца толькі да Казімера, абмінуўшы Літоўскую Раду й бязь ейнага ведама.[43] Быў выбраны ўсё-ткі другі варыянт, тым больш што ад 25 сьнежаня 1479 году Казімер знаходзіўся ў ВКЛ. Лівонскі ордэн пачаў ваенную акцыю супраць Пскоўшчыны ў студзені 1480 году; у лютым з дапамогай Пскову ўлучылася ў лівонска-пскоўскую спрэчку й маскоўская армія. Тым часам перамовы Лівонскага ордэну й Швэцыі з Казімерам зацягнуліся на даўжэйшы час. Казімер не сьпяшаўся з прыняцьцем пасольства дадзеных краінаў, і толькі ў красавіку таго-ж 1480 году ён адказаў, што на Зялёныя Сьвяты (21 травеня) будзе ў Троках і тут згодны выслухаць паслоў Лівонскага ордэну.[44] Гэтае пасольства прыбыло ў Вільню 28 травеня, і хоць напачатку, як сьцьвярджалася ў ягоным данясеньні да лівонскага магістра,[45] падаваліся добрыя надзеі, яно ўсё-ткі мусіла вярнуцца з пустымі рукамі. Казімер паставіўся адмоўна да гэтага саюзу зь Лівонскім ордэнам і Швэцыяй супраць Івана III.[46]

Аднак ці магло дайсьці да літоўска-лівонскага саюзу супраць Маскоўшчыны, калі Казімер навет прапусьціў лепшую нагоду дзеля супакаеньня Івана III? Справа ў тым, што ў лютым 1480 году, калі Іван III праводзіў расправу з сваёй апазыцыяй у Ноўгарадзе, супраць яго збунтаваліся ягоныя браты князі Барыс і Андрэй Старэйшы. Пачуўшыся абдзеленымі пры паходзе 1478 году на Ноўгарад, яны пастанавілі шукаць падтрымкі супраць брата ў Вялікім Княстве Літоўскім, адыйшоўшы з сваімі сем'ямі й дружынамі спачатку ў Ржэў, потым да Вялікіх Лукаў, што ўважаліся супольнай зямлёй ВКЛ і Ноўгарадзкай рэспублікі. Адсюль яны высылаюць пасольства да Казімера з просьбай падтрымаць іх у спрэчках зь Іванам III. Гэтае пасольства застала Казімера ў Троках дзесьці ў другой палавіне красавіка 1480 году. Ня маючы навет варожых інтэнцыяў супраць Івана III, Казімер меў поўнае права дый быў забавязаны ўмяшацца ў гэтую спрэчку братоў. А гэта таму, што паміраючы, іхны бацька Васіль II пакінуў тэстамэнт, што, згодна з ранейшай дамоўленасьцяй з Казімерам, апошні прызнаецца духоўным і палітычным апякуном ягоных дзяцей, гэта значыць Івана III, Барыса, Андрэя Маладзейшага й Старэйшага, а таксама іхнай маці вялікай княгіні. Гэта азначала таксама, што Васілевічы пры кожнай нагодзе маглі скарыстаць з гэтага апякунства Казімера ды вымагаць ад Казімера адпаведнае падтрымкі. Казімер аднак паставіўся адмоўна да просьбы Барыса й Андрэя, і гэтым самым прапусьціў магчымасьць мірным шляхам паслабіць Івана III ды гэткім-жа шляхам адрадзіць таксама й незалежнасьць Ноўгарадзкай рэспублікі. Ён згадзіўся толькі даць «на пражыцьцё» жонкам Барыса й Андрэя горад Віцебск, што, ведама, не магло задаволіць братоў Івана III. Пасьля гэтага яны паспрабавалі шукаць сабе прыпынку ў Пскове ды нарэшце былі змушаныя пагадзіцца з Іванам III, што і здарылася ў верасьні таго-ж 1480 году.

Усё гэта, асабліва занядбаньне ноўгарадзкіх справаў й нявыкарыстаная апошняя нагода, сьветчыць пра тое, што Казімер і гэтым разам быў супраць усялякага канфлікту зь Іванам III ды за ўсякую цану жадаў захаваць добрыя дачыненьні з Маскоўшчынай. Нельга пагадзіцца з тэй думкай, быццам-бы ад канфлікту з Маскоўшчынай адцягнула Казімера вестка з Малдавіі, што быццам-бы турэцкі султан меўся зрабіць налёт на Падольле, а дзеля гэтага прасіў у малдаўскага ваяводы свабоднага праходу праз ягоную зямлю. Такая вестка захавалася ў паведамленьні лівонскага пасольства зь Вільні да вялікага прускага магістра, што была пісаная 5 чэрвеня 1480 году ды ў якой паведамлялася, што падобную вестку толькі што прывёз пасланец ад ваяводы Сьцяпана.[47] Магчыма, што навет і былі такія чуткі прывезены малдаўскім пасланьнікам. Але, паводля весткі турэцкі султан меўся напасьці чамусьці толькі на Каменец-Падольск, і такім чынам на польскую частку Падольля, што не належала да ВКЛ і тому гэта не магло уплысьці на прадбачаны ход літоўска-маскоўскага канфлікту. Наагул-жа, калі й запраўды ў гэты час былі распаўсюджаныя падобныя чуткі, дык яны былі справай рук ІванаIII. У палавіне красавіка 1480 году Іван III у пасьпеху выслаў пасольства ў Крым да хана Мэнглі-Гірэя з прапановай хутчэйшага падпісаньня саюзу як супраць хана Вялікай Арды Ахмата, так і супраць ВКЛ ці Казімера. Адначасова ён накіраваў разам з гэтым пасольствам чалавека да ваяводы Сьцяпана, згаджаючыся ўзяць ягоную дачку за свайго сына Івана, а разам з гэтым і прыняць ягоную прапанову палітычнага саюзу супраць Казімера. Маскоўскі пасол у Крыме меўся сьхіліць Мэнглі-Гірэя да выступленьня супраць ВКЛ, а значыцца ў гэтым кірунку павінен быў дзеіць таксама й пасланьнік Івана III у Малдавіі. Адчуваючыся ня ў сілах выступіць супраць ВКЛ ці Польшчы, тым больш, што Сьцяпан, і недалей уважаўся леньнікам Казімера, магчыма малдаўскі ваявода й абмежаваўся распаўсюдкваньнем прыгаданых чутак.

Нельга таксама прыняць і вэрсію Длугаша, быццам-бы Казімер ухіліўся ад вайны з Маскоўшчынай з узгляду «ненадзейнасьці» літоўскіх праваслаўных магнатаў і княжых родаў, якія «больш сымпатызавалі» Івану III і такім чынам жадалі больш літоўскае паразы, чымся перамогі ВКЛ у вайне з Маскоўшчынай. Як ведама, Длугаш памёр у глыбокай старасьці 19 травеня 1480 году і памёр у Кракаве, а таму ён ня мог быць азнаёмленым з падзеямі таго часу ў ВКЛ. Праўда, ён мог запісаць польскую вэрсію ці навет вэрсію самога Казімера, але мы павінны разьрозьніваць такую вэрсію ад запраўднага стану рэчаў.

Расейскія гісторыкі, далучаючыся да гэтае вэрсіі Длугаша, высоўваюць і іншы фактар для падмацаваньня свае канцэпцыі пра так званыя «прамаскоўскія сымпатыі» гэтай «праваслаўнай літоўскай апазыцыі» — гэта фактар блізкага сваяцтва дому Алелькавічаў зь Іванам III. Запраўды маці Сямёна й Міхаіла Алелькавічаў была сястрой Васіля II, такім чынам яны прыходзіліся Івану III дваюроднымі братамі. Сястра-ж іхная Тэадора была замужам за ўплывовым князём з Маскоўшчыны — Сямёнам Юравічам Патрыкеевам. Але-ж, з другога боку. Міхаіл Алелькавіч (Сямён памёр у 1470 годзе) быў-жа такім сваяком і братам Івана III Барысу й Андрэю, якія аднак шукалі падтрымкі ў Казімера ды шукалі яе відавочна з удзелам самога Міхаіла Алелькавіча, а таксама Літоўскае Рады. Таксама дачка Сямёна Алелькавіча была замужам за цьверскім князем Міхаілам Барысавічам, які аднак быў наважаным ворагам Івана III ды вялікім

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

---

належаў Гарун да эсэраў адно на пачатку свае партыйнае біяграфіі, пасьлей перайшоўшы да іхных супаратаў — сацыял-дэмакратаў («эсдэкаў», але не бальшавікоў, а меншавікоў) пад уплывам Язэпа Лёсіка, сяброўства зь якім адзначанае ў пададзенай вышэй біяграфічнай даведцы. Пра гэты факт аўтару гэтых радкоў ведама ад самога Лёсіка, пацьвярджаецца ён і артыкуламі Гаруна, падпісанымі псэўданімам А. Жывіца, або ініцыяламі А. Ж. (у псэўданіме для мастацкай прозы ініцыял імя быў іншы — І. Жывіца; прозьвішча Жывіца тут узята матчынае, як выглядае зь біяграфічнае даведкі). Артыкулы гэтыя, заўсёды сацыял-дэмакратычныя, марксыцтвуючыя зьместам, пачалі зьяўляцца адразу-ж па звароце Гаруна зь Сыбіру ў менскай газэце «Грамада», якую Максім Гарэцкі ў тэй-жа сваёй «Гісторыі Беларускае Літаратуры» называе «меншавіцкім тыднёвікам».[7]

Па распадзе Беларускае Сацыялістычнае Грамады ў красавіку 1918 г. й вылучэньні зь яе беларускіх эсэраў і сацыял-дэмакратаў як апрычоных партыяў, Гарун належаў да апошняе (як і ўспамінаны ўжо Язэп Лёсік, а таксама браты Луцкевічы, Аляксандар Уласаў, Аркадзь Смоліч ды інш.), а не да першае (узначаленае Тамашом Грыбом, Язэпам Мамонькам ды інш. пры далучэньні на адзін пэўны час Вацлава Ластоўскага). Гаруну, пад тымі-ж ініцыяламі А. Ж., належыць і брашура — «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты й заданьні. Папулярны выклад праграмы», надрукаваная ў Менску, у друкарні «Інвалідаў» у 1920 г. (гэтая брашура на 24 балоны[8] — апошні немастацкі друкаваны, а хіба й напісаны Гаруноў твор). На фоне гэтае Гаруновае сацыял-дэмакратычнасьці й марксыставаньня стаюць на месца й тыя «пралетарскія» й марксыцкія ноткі ў некаторых ягоных вершах, пра якія згадвалася мімабегам вышэй. Магчыма, што ведамая ненавісьць бальшавікоў да сваіх «блудных братоў» — «меншавікоў» таксама мела сваю вагу ў біяграфічна-абумоўленай бальшавіцкай анатэме, кінутай на паэту, хоць нельга з пэўнасьцяй цьвердзіць, ці нат самы гэты факт быў ім добра ведамы.

Пра вастрожны пэрыяд Гаруновае біяграфіі маюць зьявіцца ўспаміны аднаго зь ягоных сузьняволеных у наступным нумары часапісу «Конадні», дык туды й даводзіцца адасласць цікавых. Гэттака можна адзначыць адно, што ўспаміны гэтыя кідаюць зыркае сьвятло на Гаруна як на чалавека. падаюць пра некаторыя ягоныя зацікаўленьні й здольнасьці, не адзначаныя дасюль (як шахматы), але для палітычнае, як і для літаратурнае біяграфіі яго няма там нічога асаблівага. Пра сібірскі пэрыяд нідзе больш, як у даведцы ў Гарэцкага, няма, — цікавыя ўспаміны мог-бы пакінуць тут згадваны Язэп Лёсік, але, нажаль, не зрабіў гэтага. Да палітычнае біяграфіі па звароце зь Сібіру сёе-тое даюць успаміны, найпраўдападабней, А. Аляксюка (падпісаныя крыптонімам А. А-к) у часапісе «Беларускі Сьцяг» (№ I за красавік 1922 г., б. б. 19-21), выданым у Коўні й цяпер вельмі рэдкім бібліяграфічна. Ужо дзеля гэтага аднаго даводзіцца спыніцца ля іх больш.

Успаміны пачынаюцца адно 1918 г., ад выступленьня паэты — тады ўжо раднага Беларускай Народнай Рэспублікі, на сэсіі Рады Рэспублікі. Па партрэтнай характарыстыцы: «крыху згорбленая, апранутая ў сялянскую жакетку, статура. Бледнае аблічча, цёмныя, засмучаныя вочы, спакойны, роўны, але цьвярозы голас» — падаецца запіс самога выступленьня Алеся Гаруна — раднага Аляксандра Прушынскага, які пададзём тут поўнасьцяй

> Паны Радныя, — гаварыў А. Прушынскі. — Я чуў тутака гарачыя й прыгожыя прамовы. Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб заслугах блізкога нам расейскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я аддаю ёй сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыянер, але аб адным забыліся Вы: рэвалюцыі ў нас на Беларусі няма. Яе здушылі Гофман і Троцкі ў Бярэсьці, падзяліўшы нашу Бацькаўшчыну, разарваўшы яе на часьці. Вы гаворыце аб паглыбленьні рэвалюцыі ў той час, калі нямецкі шуцман можа прыйсьці сюды й разагнаць гэты Высокі Сход. Іншыя з Вас раюць навет змагацца зь нямецкімі акупантамі аружнай сілай, весьці наш народ на барацьбу з узброеным Немцам кулямётамі й гарматамі. А ці падумалі тыя, якія раюць гэта рабіць, і сваймі харошымі прамовамі і другіх да гэтага шалёнага ўчынку падбухторваюць, што магло-б стацца, каб запраўды наш селянін з голымі рукамі пайшоў біцца зь Немцам? Ці падумалі аб тым, што мітынговыя прамовы пара скончыць, што трэба цяперака займацца не прамовамі, а трэба, па маёй думцы, разважаць аб тым, як пачаць і з чаго распачаць нашае дзяржаўнае будаўніцтва. Трэба падумаць аб тым, як уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, чым накарміць іх, — як школы адкрыць, як абараніць нашага селяніна ад рэквізыцыяў, як завесьці суды й шмат, шмат яшчэ чаго.
>
> Паны Радныя, памятайце, што мы — прадстаўнікі народу, мы яго голас. Прыпомніце, што народ нас выбраў для працы й працы цяжкой, а не для гульняў і прыемных гутарак і спрэчак. Наш селянін мала гавора, а шмат робіць. Вас — прадстаўнікоў народнае волі — заклікаю да працы.

Вось прамова, якую я запісаў у сваім часе, і якая даволі характарызуе нябожчыка Аляксандра Прушынскага.[9]

Далей успаміны кідаюць крыху сьвятла на постаць Гаруна ў 1919 г., калі

> нямецкую акупацыю зьмяніла бальшавіцка-маскоўская. Урадавыя беларускія ўстановы выехалі. Рада Рэспублікі сваю чыннасьць спыніла. Сыбры Рады Рэспублікі абвешчаныя былі бальшавіцкай уладай «вне закона». Прушынскі застаўся ў Менску. «Нікуды не паеду» — казаў ён. — На Бацькаўшчыне шмат працы. Сьмерці-ж я не баюся, дый і не расстраляюць мяне — пасаромяцца, усё-ж такі я — стары рэвалюцыянер».
>
> І застаўся працаваць, працаваў цяжка. Працаваў у дзіцячых прытулках, недаядаў, не дасыпаў, хварэць пачаў. Меў шмат клопатаў і няпрыемнасьцяў ад бальшавіцкіх камісараў, але заставаўся, як заўсёды, спакойны і гумару ня страціў. Па вечарох дапозна сядзеў і пісаў свае думы-вершы. Дзяліўся із сваёй матуляй-старушкай сваймі радасьцямі й смуткамі.
>
> Пад канец панаваньня бальшавікоў у Менску распачаўся нялюдзкі тэрор. Кажны дзень расстрэльваліся сотні людзёў. «Чэка» агарнула якоесьці шалёнства. Стала цяжка дыхаць. Алесь пачаў нэрвавацца, пачаў пратэставаць, пратэставаць адкрыта, не хаваючыся і не палохаючыся за ўласнае жыцьцё. Зь вялізарным трудом, проста сілком, удалося прыяцелям Гаруна ўгаварыць яго выехаць на нейкі час зь Менску. І гэта было зроблена ў пару, бо «чэка» ўжо яго шукала ...[10]

(Далей будзе)

# Праца Навукоўцаў-Беларусаў паза межамі Бацькаўшчыны

(Паводля рэфэрату, чытанага ў **Бел. Інст. Навукі і Мастацтва ў Н. Ё.**)

У шмат якіх галінах навукі Беларусы-навукоўцы пакінулі вялікую спадчыну й уславілі сябе на цэлы сьвет. Прозьвішчы як: Пржэвальскі, Капіевіч, Семяновіч і дзесяткі іншых гавораць вельмі шмат навуковаму сьвету.

Ня мала зроблена Беларусамі і ў справе пашырэньня навукі й разбудовы навучальных установаў паза межамі Беларусі, а асабліва ў нашых суседзяў: Маскалёў ды Палякаў. Гэтак Маскалём, яшчэ за часоў нашае незалежнасьці, Беларусы далі друкарства, праз беларускі-ж друк прышла ў Маскоўшчыну вестка аб адкрыцьці Амэрыкі. Беларусь дала Расеі першых аграномаў і першыя агранамічныя школы ў Марынай Горцы і Горы-Горках.

Няма яшчэ працаў, якія дасьледуюць дзейнасьць беларускіх навукоўцаў і тэхнікаў паза Беларусяй. Калі й зьяўляюцца невялікія брашуры, як прыкладам «Беларусы ў Маскве» Абэцэдарскага, дык гэта кропля з мора. Пры гэтым, матарыял падаецца вельмі тэндэнцыйна, ды разглядаецца толькі дзейнасьць рамесьнікаў. Аўтар стараецца давесьці, што Беларусы ехалі працаваць дабраахвотна — дык гэта ламаньне ў вадчыненыя дзьверы — зусім ясна, што ў часы Вялікага Княства Літоўскага (аўтар разглядае XVII стагодзьдзе) Беларусы былі місіянэрамі — несьлі асьвету й культуру ў вадсталую Маскоўшчыну. Вельмі-ж падкрэсьліваюцца ў Абэцэдарскага тыя месцы, дзе ён і палонных Беларусаў залічае ў лік дабраахвотных перасяленцаў і піша, што ў Маскве Беларусы пазбаўляліся нацыянальнага прыгнёту! Не падабаецца Абэцэдарскаму й тое, што некаторыя дасьледваньнікі дзейнасьці Беларусаў у Маскоўшчыне называюць апошніх чужынцамі. Абэцэдарскі нават прабуе вытлумачыць, чаму няма працаў аб дзейнасьці Беларусаў паза межамі Літвы. Няма, маўляў, матарыялаў. Такое цьверджаньне не далёкае ад праўды: дастаткова пералічыць розныя расейскія біяграфічныя слоўнікі ды публікацыі аб пэрсанальным складзе расейскіх вышэйшых навучальных установаў і мы напаткаем сотні Беларусаў.

Тут мы і падамо некалькі прозьвішчаў ды апішам дзейнасьць выдатнейшых навукоўцаў-Беларусаў другой паловы мінулага ды пачатку гэтага стагодзьдзя.

### Батанікі-Беларусы

**Баранецкі Язэп** (нар. у 1843 — памёр у 1905 г. Ведамы фізыёляг і анатамісты расьлінаў. Нарадзіўся на Горадзеншчыне ў сям'і шляхціча. Па сканчэньні Беластоцкай гімназыі ў 1860 годзе запісваецца на гістарычна-філялягічны факультэт Маскоўскага Унівэрсытэту, але на гэтым факультэце застаецца толькі адзін год і пераходзіць на прыродаведны аддзел фізычна-матэматычнага факультэту Пецярбурскага Унівэрсытэту, які й скончыў у 1866 годзе. Па сканчэньні Унівэрсытэту спачатку працуе загадчыкам батанічнага габінэту гэтага-ж Унівэрсытэту, а потым пераходзіць на катэдру ў якасьці асыстэнта. Будучы асыстэнтам, публікуе свае першыя працы аб імхох. У 1870 годзе абараняе магістэрскую дысэртацыю «Вывучэньні дыясмосу у адносінах яго да расьлінаў», за якую атрымоўвае навуковую стыпэндыю дзеля паглыбленьня студыяў на Захадзе, у Эўропе. Працуе два гады ў Нямеччыне у ведамых батанікаў Гайнца, Сакса, Кгопа, Дэ Бары. У Вюрцбургу падрыхтоўвае доктарскую дысэртацыю, якую абараняе ў Пецярбургу ў 1873 годзе. У гэтым-жа годзе Баранецкі выбіраецца спачатку экстраардынэрным, потым ардынэрным прафэсарам (1877) на катэдру батанікі (у галіне анатоміі й фізыялёгіі расьлінаў) у Кіеўскі Унівэрсытэт.

Прафэсар Баранецкі засноўвае ў Кіеўскім Унівэрсытэце лябараторыі анатоміі й фізыялёгіі расьлінаў і ўважаецца піянэрам у фізыялёгіі расьлінаў на Ўкраіне. Прафэсарам у Кіеве ён застаецца да 1898 году.

У 1897 годзе Баранецкі становіцца сябрам-карэспандэнтам Пецярбургскай Акадэміі Навукаў.

Навуковая дзейнасьць Баранецкага працякала ў некалькіх кірунках. У пачатку свае кар'еры ён вывучаў ганідыі лішайнікаў і іхную здольнасьць да самастойнага жыцьця. Разам із сваім настаўнікам А. С. Фамініцынам ён давадзіць, што ганідыі лішайнікаў, будучы ізаляваныя ад лішайнікаў, могуць жыць самастойным жыцьцём, даваць зааспоры й могуць быць атоесамленыя зь ведамымі водарасьцямі. Працамі ў гэтай галіне ён шмат спрычыніўся да ўразуменьня тэорыі Швэндэнэра.

Другой галіной дасьледваньня Баранецкага была фізыялёгія расьлінаў. Фізыялягічныя працы Баранецкага вельмі шырокія паводля зьместу. Так, ён вывучаў асматычны ціск калёідаў (між іншага ў батанічных лябараторыях), траньсьпірацыі расьлінаў у залежнасьці ад асьвятленьня, рост камля за пару, прычыны кірунку гальля на дрэвах і кустох, вінтавога росту ўючых расьлінаў ды інш.

Ад сярэдзіны 80-ых гадоў Баранецкі пераходзіць да вывучэньня анатоміі расьлінаў. Вывучае патоўшчаньні сьценак парэнхімы, утварэньне сталых тканак у конусах нарастаньня камля і г. д. Агулам праф. Баранецкі пакінуў звыш поўсотні працаў. Працы ягоныя друкаваліся галоўным чынам у Нямеччыне й Францыі. Асабліва-ж ведамы Баранецкі ў батанічнай навуцы тым, што, ня гледзячы на параўнальна недасканальную мікраскапічную тэхніку, яму ўдалося выявіць вінтападобную (сьпіральную) структуру храмасомаў, дэтальнае вывучэньне якіх пачалося толькі амаль 50 год пазьней.

**Бараноўскі Антон** (?—1874). Аб Бараноўскім маем вельмі скупыя біяграфічныя весткі. Паходзіць Бараноўскі, як прыпушчаюць, зь Віленшчыны. Год нараджаньня няведамы. Адукацыю атрымаў у Вільні, скончыў мэдычны факультэт. У 1863 годзе далучаецца да паўстаньня Каліноўскага. Быў узяты ў палон і высланы на Ўрал. На Ўрале Бараноўскі заняўся дасьледваньнем прыроды гэтага, тады мала ведамага, краю. Вывучаў батаніку, палеанталёгію і геалёгію Уралу. Сабраў каштоўныя вялікія гэрбарыі й калекцыі мінэраляў. Свае асноўныя працы ў галіне прыродаведы Ўралу публікаваў у Запісках Уральскага Таварыства Прыяцеляў Прыроды.

### Матэматыкі.

**Бараноўскі Аўгуст.** Нарадзіўся на Палесьсі (былая Менская Губэрня), скончыў менскую гімназію, а потым фізычна-матэматычны факультэт Кіеўскага Ўнівэрсытэту. Ад 1878 да 1883 году быў ад'юнктам галоўнай фізычнай абсэрваторыі, дзе вылічаў «Гіпсамэтрычныя табліцы дзеля акрэсьленьня вышыняў з дапамогай баромэтру», надрукаваныя ў 1881 годзе. Ад 1886 году займае пасаду дырэктара габінэту фізычнае геаграфіі Пецярбургскага Ўнівэрсытэту. Напісаў «Нарыс клімату Ніжнягародзкай Губ.», «Галоўныя рысы клімату чарназёмных акругаў Расеі», «Нарыс клімату Палтаўскай Губ.» і інш. працы.

**Блажэўскі Рамуальд** — прыват-дацэнт чыстай матэматыкі. Нарадзіўся ў 1839 годзе ў Горадні, дзе й атрымаў сярэднюю асьвету. Скончыў фізычна-матэматычны факультэт Маскоўскага Ўнівэрсытэту. Пазьней едзе ў Францыю й слухае лекцыі ў Парыжы. У 1869 годзе варочаецца ў Расею і чытае лекцыі ў галіне матэматычнай фізыкі на Маскоўскім Унівэрсытэце. Потым нейкі час працуе выкладчыкам у Варшаўскай навуковай акрузе, а ад 1888 году становіцца прафэсарам Казанскага Унівэрсытэту. Найбольшыя працы: «Аб сучасным палажэньні вышэйшай оптыкі» выд. у Варшаве ў 1873 і «Аб эліптычных інтэгралях трэйцяга віду» — Масква 1864.

### Астраномы-Беларусы.

У астраноміі мы маем некалькі сотгадовую традыцыю. Астраноміяй займаліся шмат у Вялікім Княстве Літоўскім, а беларускі астраном Капіевіч Ільля з Мсьціслаўя напісаў некалькі кніжак з галіны астраноміі, якія былі перакладзеныя ў іншыя мовы й даўгі час былі стандартнымі падручнікамі.

Беларуская астранамічная школа ў Вільні — адна з найпаважнейшых астранамічных школаў. Спаміж гадунцоў Віленскае абсэрваторыі ёсьць нямала такіх, якія стаяць у першых радох астраномаў сусьветнае славы. Назавем тут толькі Пачабута Марціна ды Глушневіча Міхала. Разгляд дзейнасьці навукоўцаў-Беларусаў на Бацькаўшчыне сяньня не ўваходзіць у рамкі артыкулу — гэтай тэме будзе прысьвечана асобнае месца.

Тут-жа-ж мы спынімся над разглядам дзейнасьці астраномаў-Беларусаў, якія працавалі ў Маскоўшчыне.

**Дубяга Зьмітра.** Нар. ў 1849 г. у сяле Соіна (Магілеўшчына). Па сканчэньні Магілеўскае гімназіі, запісваецца на фізычна-матэматычны факультэт Пецярбургскага Ўнівэрсытэту, які й канчае ў 1872 г. з залатым мэдалем за дысэртацыю «Ужыцьцё спэктральнага аналізу да астранамічных дасьледваньняў». Па сканчэньні, быў пакінуты пры Ўнівэрсытэце дзеля падрыхтоўкі на тытул прафэсара. У 1881 г. Дубяга абараняе доктарскую дысэртацыю (у той час абараніць доктарскую дысэртацыю, маючы 32 гады, амаль нячуванае здарэньне) і застаецца прафэсарам Пецярбургскага Унівэрсытэту на катэдры астраноміі й вышэйшае геадэзіі.

У 1884 г. Дубягу прапаноўваюць прафэсуру ў Казанскім Унівэрсытэце, якую ён і прыймае. У Казані, апрача прафэсарскае дзейнасьці, ён зарганізоўвае ведамую сяньня ўсім астраномам «энгельгардаўскую» казанскую абсэрваторыю і наладжвае экспэдыцыі геадэзычных партыяў у шмат якія часткі Расеі. Сам Дубяга некалькі разоў ачольваў экспэдыцыі для астранамічных назіраньняў у Вяцкую губэрню й на Новую Зямлю.

Ад 1890 году Дубяга становіцца дэканам фіз.-мат. факультэту, а ў 1899 годзе быў выбраны рэктарам Казанскага Унівэрсытэту.

Славу сусьветнага навукоўца-астранома ён здабыў за свае працы: «Дасьледваньне арбіты спадарожніка Нэптуна», «Тэорыя руху плянэты Дыяны», «Каталёг 4281 зоркі паміж 74°40' і 80°20'» і шэраг іншых. Апрача гэтых буйнейшых працаў, ягонаму пяру належаць некалькі дзясяткаў навуковых артыкулаў.

Традыцыя, што ў астраноміі Беларусы маюць выдатнейшых прадстаўнікоў з сусьветна-ведамымі імёнамі, цягнецца й да сяньня. У гэтым стагодзьдзі пляяду беларусаў-астраномаў укаранаваў імя **Вітаўта Цераскага.**

В. Цераскі нарадзіўся 9-га травеня 1849 г. у Слуцку (памёр у 1925 г.). Скончыўшы Слуцкую гімназыю ён запісваецца на Маскоўскі Ўнівэрсытэт і канчае студыі з залатой узнагародаю за працу «Аб руху Марса». Пачынаючы ад другога курсу ўнівэрсытэту, Цераскі працуе пры астранамічнай абсэрваторыі, дырэктарам якое ён стаўся пасьлей і прабыў на гэтай пасадзе 26 гадоў. Як выказаўся калега Цераскага астраном Белапольскі: «Маскоўская астранамічная абсэрваторыя — адзін з найлепшых помнікаў жыцьця й творчасьці Цераскага».

У разьвіцьці астраноміі ў Расеі наш суродзіч быў піянэрам інструментальнае фотамэтрыі і заснавальнікам Маскоўскае школы фотамэтрыстых. Для свайго часу ён дасягнуў нябывалага ўзроўню азначэньня бляску зорак. Адзін з мадэляў фотамэтра носіць ягонае імя. Ён пабудаваў астранамічны бінокль і шэраг іншых астранамічных прыладаў. В. Цераскі быў адным зь першых астраномаў, якія вызначылі зоркавую велічыню сонца і ёсьць першы астраном ў сьвеце, які ўстанавіў экспэрымэнтальна ніжні ліміт тэмпэратуры сонца. Разам з астраномам Белапольскім Цераскі ўпяршыню назіраў срабрыстыя воблакі і акрэсьліў іхную вышыню. В. Цераскі адкрыў каля 200 зорак.

**В. Кіпель**

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

# Важная знаходка

Як паведамляе БЕЛТА («Советская Белоруссия» з 15 ліпеня б. г.), у закінутым касьцёле ў Будславе, Крывіцкі раён, мясцовае жыхарства агледзела больш за 1000 старых кнігаў. Яны былі выдадзеныя ў XVI—XVIII стагодзьдзях у гарадах Беларусі, а таксама ў Данцыгу, Ляйпцыгу, Цюрыху, Льежы, Ліёне й г. д. Гэтая знаходка была перанятая Беларускім гістарычна-краязнаўчым музэем. Паведамленьне БЕЛТА не акрэсьлівае характару й вартасьці кнігаў, што былі надрукаваныя ў Беларусі, абмежаваўшыся агульнай заўвагай, што важнейшыя зь іх былі выбраныя для захаваньня. У сувязі з гэтым гаворыцца, што ў калекцыю Беларускага гістарычна-краязнаўчага музэю апошнім часам паступае шмат падобных знаходак і што **падарунак** Музэю зрабіў таксама Маскоўскі дзяржаўны гістарычны музэй, перадаўшы сюды шэраг кнігаў, якія выходзілі ў Беларусі ў XVII—XVIII стагодзьдзях.

Руплівыя гістарычна-краязнаўчыя экспэдыцыі шмат знаходзяць гістарычных матарыялаў, у тым ліку й друкаваныя матарыялы, у развалінах і пячорах, таму паказваецца крыху дзіўным, што ў БССР дасюль недасьледаваныя навет «закінутыя» касьцёлы й цэрквы. Пажадана таксама, каб успомнены Беларускі гістарычна-краязнаўчы музэй нарэшце паклапаціўся пра перадачу яму арыгінальных актаў Літоўскае Мэтрыкі, што знаходзяцца параськіданымі ў Маскве й Варшаве. Найвышэйшы таксама час для апублікаваньня асобным выданьнем дадзеных актаў, але толькі цалкам а ня мэтадам адбору матарыялаў, якія быццам «сьветчаць пра спрадвечную кроўную сувязь і пацяг беларускага народу зьвязаць свой гістарычны лёс з расейскім народам і Расеяй». Апошняя тэндэнцыя адлюстравалася яскрава, напрыклад, у нядаўна выдадзеным 2-м томе гістарычных матарыялаў зь гісторыі Беларусі «фэадальнага пэрыяду».

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

сымпатыкам больш цеснае сувязі Цьверскага княства з ВКЛ.

Што праўда, праз Міхаіла Алелькавіча й ягонага швагра князя Івана Юравіча Гальшанскага была навязаная сувязь між малдаўскім ваяводам Сьцяпанам і вялікакняжым маскоўскім домам. Найперш ваявода Сьцяпан з прапановай сужэнства свае дачкі, (якая была адначасова й пляменіцай Міхаіла Алелькавіча) з сынам Івана III зьвярнуўся да названых літоўскіх князёў. Міхаіл Алелькавіч перадаў гэтую просьбу Сьцяпана ў Маскву сваей сястры Тэадоры, якая потым пераказала яе паводля прызначэньня. У гэтым нельга шукаць нейкае палітычнае падкладкі, тым больш, што Міхаіл Алелькавіч ня вёў гэтую справу беспасярэдне зь Іванам III ды наагул-жа пра гэтае сватаўство Сьцяпана былі забыліся навет і ў Маскве. Ухапіўся Іван III за гэтую прапанову ваяводы Сьцяпана толькі ўвесну 1480 году, але, як мы маглі канстатаваць, ён адмовіўся ад «паслугаў» Міхаіла Алелькавіча, высылаючы свайго пасланіка ў Малдавію аб'ездам — праз Крым.

Прычына ўхіленьня Казімера ад вайны з Маскоўшчынай тоіцца не ў «праваслаўнай літоўскай апазыцыі» й ейным прэтэндаваным «сымпатызаваньні» Івану III. Як ведама, у гэты час у Вялікім Княстве Літоўскім ня было такіх вялікіх рэлігійных разыходжаньняў між праваслаўнымі й каталікамі, бо афіцыйна і мітрапаліт літоўскі Міхаіл (1472-1480), былы Смаленскі ўладыка, так і ягоны наступнік Сымон (з 1480 г.), былы Полацкі ўладыка, праўна атрымалі сваё прызнаньне ад канстантынопальскага патрыярха. Наагул-жа рэлігійныя разыходжаньні й варожасьць не маглі служыць асновай для палітычна-нацыянальнай здрады, а ўрэшце прэтэндаваныя кіраўнікі гэтае «літоўскае праваслаўнае апазыцыі» — князі Міхаіл Алелькавіч і Фёдар Бельскі — уласнаручна падпісвалі пасланьне мітрапаліта Міхаіла з 1476 году да папы Сікста IV, у якім, як зазначалася вышэй, хоць і выказваліся нараканьні на каталіцкія самавольствы ў ВКЛ, але ўсё-ткі папа прызнаваўся вярхоўным абодвух цэркваў. Гэта азначае, што ў ніякім выпадку гэтыя князі маглі раптам захапіцца маскоўскім «прававерным» праваслаўем і ступіць на шлях здрады ўласнага народу й дзяржавы.

[43]) **Ibid.**, № 284, b. 310X312.
[44]) **Ibid.**, № 286, b. 314.
[45]) **Ibid.**, № 289, b. 315-316.
[46]) Koneczny F., Rzekoma koalicja Litwy z Tatarami przeciwko Moskwie w r. 1480, **Ateneum Wilenskie**, № 2, Wilno, 1923, p. 157.
[67]) **Codex epistolaris**, t. III, № 289, p. 316.

**(Далей будзе)**

**П. Урбан**



*Фэльетон*

# „Культурна адпачываць!“...

**З радыёвай хвалі «Свабода»**

У савецкіх клюбах на ганаровым месцы бачым яскравай фарбай намаляваны лёзунг: «Прадуктыўна працаваць, культурна адпачываць!» У іншым месцы таксама чытаем: «Усё для дабра савецкага чалавека!» З кожнай старонкі кожнай савецкай газэты мы даведваемся, што «родная» партыя нічога ня робіць, толькі ўдзень і ўначы «клапоціцца аб шчасьці савецкіх людзей».

Калі-б карова ў саўгасе «Савецкі» Касьцюковіцкага раёну ўмела чытаць і прачытала прыгаданыя два лёзунгі, яна-б за жывот узялася ад сьмеху, бо працоўныя гэтага саўгасу перасталі ўжо сьмяяцца. Як бачым з нататкі, зьмешчанай у 177-ым нумары «Калгаснай Праўды», работнікі гэтага саўгасу «любяць кіно». У гэтым няма нічога дзіўнага: пабачыць добры фільм — гэта сапраўды культурны адпачынак. Праўда, з савецкімі фільмамі крыху горш, бо на экране больш прапаганды, чымся мастацтва.

Але найгоршае тое, што калі з раёну прыязджаюць прапагандыстыя з апаратамі, у саўгасе ўзьнікае жвавая мітусьня. Перш за ўсё з хлява высяляюць кароў, не папытаўшыся іхнай згоды. Тут дзеіцца несправядлівасьць, бо можа каровы таксама хацелі-б пабачыць фільм. Але, бачна, казённыя прапагандыстыя ня маюць даверу да гэтай публікі. Людзі за 43 гады да ўсяго прывыклі, каровам-жа — цяжэй. Таму слушна прапагандыстыя баяцца, што ўбачыўшы «савецкі рай» на экране і «нашага Мікіту Сяргеевіча», каровы маглі-б зрабіць бурную антысавецкую дэманстрацыю.

Дык вось кароў выселілі з хлява. Адразу туды пачынае наплываць паток людзей і кожны нешта нясе: адзін табурэт, другі лаўку, а іншы — проста скрынку. Гэта — фатэлі. Пачынаецца кінасэанс. Паказваюць нававыпрадукаваны ў Савецкім Саюзе фільм «Наш Мікіта Сяргеевіч». Гэта — змайстраваная шустрымі падлізьнікамі «жыцяпісьня» Хрушчова. Працоўныя саўгасу «Савецкі» глядзяць на экран і кожны думае пасвойму. Затое, пакрыўджаныя каровы, якіх загналі ў цесную загарадзь за хлявом-кіно, дружна робяць бурную дэманстрацыю незадаваленьня: злосна рыкаюць і поруць адна другую рагамі.

Урэшце фільм «Наш Мікіта Сяргеевіч» канчаецца. Гледачы бяруць на плечы свае табурэты, лаўкі й скрынкі і разыходзяцца. Кожны зь іх думае пасвойму. Кіноапэратары здымаюць экран, размантоўваюць апаратуру. Каровы атрымоўваюць дазвол усяліцца ў сваё памешканьне. I вось яны, поўныя абурэньня, што не пабачылі савецкага кінаматаграфічнага шэдэўру «Наш Мікіта Сяргеевіч», вобмацкам шукаюць сваю цесную жыцьцёвую плошчу. Пры актыўнай дапамозе даярак і пастухоў недзе каля поўначы каровы, не пабачыўшы «гістарычнага» фільму, знаходзяць сваё месца ў жыцьці...

Так працоўныя саўгасу «Савецкі» Касьцюковіцкага раёну мелі «культурны адпачынак» згодна з савецкім лёзунгам: «прадуктыўна працаваць, культурна адпачываць!»

Што-ж, будзем спадзявацца, што ў 1980-ым годзе, калі, паводля абяцаньняў новай праграмы КПСС, будзе пабудаваны камунізм, у калгасах будуць пабудаваныя клюбы і тады, урэшце, працоўныя ня будуць хадзіць у кіно-хлеў, а гэтым самым і каровы будуць мець супакой. Усе будуць «культурна адпачываць».

Доўга трэба на гэта чакаць. Але хто дажыве — пабачыць... Мы аптымістыя.


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski,** 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**